Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE ¢ 50

Post Address: BIELARUS P. O. Box 109 Jamaica, N. Y. 11431

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVIII. № 135 — 136 | Ліпень — Жнівень 1968 | NEW YORK — TORONTO | July — August 1968 | Vol. XVIII. № 135 — 136

## 450-ГОДЗЬДЗЕ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ Ў НЬЮ ЁРКУ




**Будынак Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэкі. Направа ў вітрыне плякат пра Выстаўку з патрэтам Францішка Скарыны**

Як ведама, ад пачатку сакавіка сёлета ў Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку адчыненая была вялікая выстаўка, прысьвечаная 450-м угодкам беларускага друку. Выстаўку наладзіў Славянскі Аддзел Бібліятэкі. Мэтровае вышыні плякат з патрэтам Скарыны пры галоўным уваходзе да Бібліятэкі зь Пятае Авеню, а яго рэпрадукцыя пры ўваходзе бочным з 42-га Стрыту, апавяшчалі міліёнам ньюёркцаў і турыстых пра юбілейную выстаўку з нагоды культурнае падзеі гісторыі Беларусі ды ўсяго славянскага ўсходу Эўропы.

Пра выстаўку выдала Бібліятэка й адмысловы прэсавы камунікат, які быў разасланы ў ЗША й замежжы сотням газэтаў, навуковых установаў, унівэрсытэтаў, і вестка пра юбілей беларускага друку ды выстаўку гэтак пашыраная была па ўсім сьвеце. Плякаты гэтыя, з патрэтам Доктара Скарыны на іх, разьвешаныя былі ў сотнях ньюёрскіх бібліятэкаў і навучальных установаў.

Сама выстаўка разьмешчаная была на галярэі другога паверху галоўнага будынку Бібліятэкі. Яе складвала панад 200 экспанатаў — кнігаў, часапісаў, патрэтаў, картаў, рысункаў, рэпрадукцыяў із старадрукаў і дрываарытаў,—што разьмешчаныя былі на 13-ці сталох-вітрынах ды разьвешаныя на сьценах галярэі. Экспанаты ілюстравалі галоўныя этапы старога й новага беларускага друку, адзначалі важнейшыя даты й падзеі, паказвалі выдатнейшых дзеячоў друку й выдаўцоў кнігаў, давалі ў цэлым храналягічны агляд эвалюцыі гэтага друку, яго ўзвышшаў і заняпадаў, ды ўзорамі выданьняў Беларускай ССР, ЗША, Пальшчы ды іншых краёў, паказвалі сучасны яго стан.

Пратрывала выстаўка пяць месяцаў, да 26 ліпеня. Калі ўзяць на ўвагу, што кажны дзень Бібліятэку наведвае ў сярэднім 8.000 — 10.000 чалавек, ды што выстаўка разьмешчаная ў цэнтральным месцы будынку Бібліятэкі, дык можна мяркаваць, што выстаўку штодзень агледалі тысячы.

Апрача паясьняльных картак пры паасобных экспанатах, у кажнай вітрыне былі памешчаны й агнаўныя інфармацыйныя даведкі пра дадзены пэрыяд друку, пра яго характэрныя асаблівасьці, з накіраваньнем увагі гледача на тую ці іншую зьяву, на той ці іншы экспанат ці выданьне. Дзеля інфармацыі й гістарычнае дакумэнтацыі падаваліся тут, у ангельскім арыгінале, вытрымкі зь бібліятэчнага камунікату пра выстаўку ды з анатацыяў да паасобных вітрынаў.

Публічная Бібліятэка Нью Ёрку адна з найбольшых бібліятэкаў ЗША й сьвету. Ейныя бібліятэчныя фонды складаюцца сяньня з больш 30 міліёнаў пазыцыяў, 14 міліёнаў з чаго гэта кнігі й брашуры, каля 10 міліёнаў рукапісаў, 6 міліёнаў рысункаў, малюнкаў, абразоў ды іншага. У ЗША толькі Кангрэсавая Бібліятэка ў Вашынгтоне лікам сваіх збораў перавышае ньюёрскую Публічную. Вялізная колькімесячная выстаўка беларускага друку ў ваднэй з найбольшых, навукоўцам шырока ведамай, рэпрэзэнтацыйнай бібліятэцы сьвету, бібліяэтцы, што знаходзіцца непадалёк сусьветнае палітычнае ўстановы, Задзіночаных Нацыяў, мімаволі наводзіць думку на тое, як-жа-ж адзначаныя ўгодкі беларускага друку ў БССР ды СССР?

Што да СССР і цэнтру імпэрыі, Масквы, дык трэба адцеміць, што там было зроблена ўсё, каб угодкі гэтыя „не заўважыць". Хоць якраз у бібліятэках Масквы сканцэнтраваныя сяньня ўсе 25 Скарынавых кнігаў, ні выдатнаму Палачаніну, беларускаму першадрукару, ні беларускаму друку наагул, у юбілейным 1967 годзе ў Маскве ня было наладжана ні выстаўкі, ні акадэміі, ні хоць-бы прынагоднага рэфэрату. Не зьявілася ў Маскве й ніводнага ўгодкавага выданьня, — кніжкі ці брашуры, — ня было апублікавана ніводнае на гэтую тэму навуковае працы, хоць уплыў Скарынавага друку й на друк маскоўскі бясспрэчны, даецца ён моцна заўважыць ужо на колькіх апошніх выданьнях ведамага маскоўскага першадрукара Івана Хведарава Масквіціна.

Цэнтральны афіцыйны ворган сучаснае савецкае славістыкі, выдаваны Акадэміяй навук СССР у Маскве часапіс „Советское словяноведение", у сваіх шасьці нумарох 1967 году пра юбілей беларускага друку й Доктара Францішка Скарыну ня толькі не памясьціў ніводнага артыкулу, але не заікнуўся пра ўгодкі навет і ў зацемках хронікі часапісу. І на сьціплыя ўгодкавыя ўрачыстасьці ў Менску ўлетку 1967 году, на якіх былі прадстаўнікі акадэміяў навук блізу ўсіх рэспублікаў СССР, з Масквы не зьявіўся й ня вітаў ніводзін прадстаўнік ні ад акадэміі, ні ад партыйных цэнтральных уладаў імпэрыі. У Менску-ж калі ў жніўні 1967 году й была наладжаная выстаўка друку БССР, друку, як ведама, сяньня пераважна не беларускага, а расейскага, дык і яна трывала ўсяго пару тыдняў.

Вялікая выстаўка беларускага друку на амэрыканскім кантынэньце, у Нью Ёрку, трывала тымчасам блізу паўгоду часу. А, трэба незабывацца, што апрача яе, былі наладжаныя на сьвеце й іншыя выстаўкі друкаў Доктара Скарыны, ці беларускіх друкаў наагул, — і ў тымсамым Нью Ёрку, і ў канадыйскім Таронцы, і ў ангельскім Лёндане ды Манчэстары, — ды там-жа, а таксама ў Рыме, а навет у Аўстраліі, адбыліся й юбілейныя акадэміі ды рэфэраты.

Важна тут адзначыць аб'ектыўны, строга навуковы агляд этапу гістарычнага разьвіцьця беларускага друку, дадзены Бібліятэкаю на інфармацыйных даведках выстаўкі. На іх адцемлены й прыкладамі паказаны вялікі ўплыў высокамастацкіх друкаў Скарыны, які яны мелі й на пазьнейшы друк беларускі, і на маскоўскі, і на іншы славянскі. Правільна азначаныя й гістарычныя прычыны пазьнейшага заняпаду старога беларускага друку спачатку дзеля наступаючай палянізацыі, а, пасьля захопу земляў Беларусі Расеяй, дзеля забароны Масквою беларускаса друку ды русыфікацыі. Уважны глядач мог лёгка на выстаўцы зацеміць і той уражаючы парадокс гісторыі, што народ, які, дзякуючы Доктару Скарыну, калісьці першы на ўсім усходзе Эўропы меў друкаваны каляндар, сяньня свае беларускія календары можа друкаваць толькі ў Польшчы, ці на амэрыканскім кантынэньце, але не ў „сваей" рэспубліцы, не на сваей беларускай зямлі. Сучасных беларускіх падсавецкіх каляндароў Бібліятэка паказаць не магла, бо іх няма, бо друк іх сяньня Масквою забаронены.

Важна й тое, што на выстаўцы Бібліятэка, з багатых збораў свайго славянскага аддзелу, паказала ўзоры ўсяго сучаснага беларускага друку — і друку БССР, і беларускага друку замежнага, кнігі, што былі выдадзеныя ў ЗША, ці іншых краёх сьвету, як выданьні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, выдавецтва „Бацькаўшчына" ды іншых. Такі шырокі, навукова аб'ектыўны паказ, зразумела, магчыма даць толькі на Захадзе. Беларускіх і навуковых выданьняў замежжа сяньня ніхто ніколі не пабачыць на паказах ні ў Менску, ні ў Маскве, ды й нідзе ў межах панаваньня гэтакзванае „народнае дэмакрацыі".

Вось вышэй адцемленае й складаецца на тое, што сваім аб'ектыўным высокаакадэмічным узроўнем выстаўка бясспрэчна ўдалая культурная імпрэза, імпрэза шырокага міжнароднага зацікаўленьня й увагі. Пазытыўныя водзывы пра яе, апрача беларускіх, ужо зьявіліся амэрыканскія, чэскія, славацкія, польскія, расейскія ды навет падсавецкія — у „Советской Белоруссии" ды менскім радыё. Вось дзеля гэтага за яе належнае ўдалае наладжаньне заслужанае прызнаньне належыцца й Публічнай Бібліятэцы Нью Ёрку, і яе Славянскаму Аддзелу.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ ЁРКУ

Тыдзень Паняволеных Народаў, абвешчаны Прэзыдэнтам ЗША Джонсанам на аснове ведамага закону 86-90, пачаўся сёлета ў нядзелю 14 й трываў да сыботы 20 ліпеня.

У нядзелю 14 ліпеня а 9-ай гадзіне нараніцы нацыянальныя групы паняволеных камунізмам народаў сабраліся із сваімі нацыянальнымі сьцягамі й плякатамі на 5-ай авэню й 59 вуліцы ў Нью Ёрку, адкуль пайшлі паходам па 5-ай авэню у Катэдру Сьв. Патрыка. У паходзе, на самым перадзе, шугалі два беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі, а дзяўчынка Ніна Абрамчык, у нацыянальным касьцюме, несла плякат з назовам нашае Бацькаўшчыны.

У катэдры адбылася Божая Служба за вызваленьне паняволеных народаў ды сказаная адпаведная казань.

Пасьля сотні ўдзельнікаў урачыстасьці прайшлі парадам па 5-ай авэню ў Цэнтральны Парк. На сцэне парку занялі месца дэлегацыі розных нацыянальнасьцяў із сьцягамі й плякатамі, а між імі й дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й дэлегацыя Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Амэрыцы. На фоне ўдзельнікаў у народных касьцюмах і каляровых сьцягоў выступалі прамоўцы — старшыня Камітэту Паняволеных Народаў у Нью Ёрку судзьдзя Мэт'ю Трой, кангрэсмэн Лестэр Вольф і іншыя. Прамовы былі пераплятаныя народнымі танцамі розных нацыянальнасьцяў.

У аўторак 16 ліпеня Тыдзень Паняволеных Народаў быў адзначаны ў Сіты Гол у Нью Ёрку, дзе а 11-ай гадзіне сабраліся дэлегацыі Паняволеных Народаў, у тым ліку й дэлегацыя ад беларускіх арганізацыяў на чале із старшынём Галоўнай Управы БАЗА Ул. Курылам.

З прычыны няпрысутнасьці ў гэты дзень у Нью Ёрку мэра Джона В. Ліндзі, дэлегацыі прыняў ягоны заступнік Тымоты В. Костэло. Ён прачытаў падпісаную мэрам Ліндзі праклямацыю Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку із заклікам, каб быў адзначаны гэты Тыдзень малітвамі й новымі намаганьнямі дзеля вызваленьня паняволеных камунізмам народаў.

У пятніцу 19 ліпеня ў вялікім памешканьні ньюёркаўскага мастака Джорджа М. Кэсьлера на 62 вуліцы прадстаўнікі нацыянальных групаў і Амэрыканцаў у колькасьці каля 300 асобаў супольна адзначылі заканчэньне Тыдня Паняволеных Народаў сяброўскім кактэйлем. У міжчасе з адпаведнай прамовай выступіў старшыня Ньюёркаўскага Камітэту Паняволеных Народаў судзьдзя М. Трой. Пасьля гэтага была прынятая адпаведная рэзалюцыя, якая была перасланая Прэзыдэнту Джансану, Дзяржаўнаму Сакратару Раску, сябром Амэрыканскага Кангрэсу й Задзіночаных Нацыяў.

У гэтым вечары прыняла ўдзел ладная група прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў.

## 8=АЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

Аддзел БАЗА ў Дэтройце, Мічыган, яшчэ раз ветліва прыпамінае, што Восьмая Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, галоўнай тэмай якой Залаты Юбілей Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, адбудзецца 31 жніўня — 1 і 2 верасьня сёлета ў Дэтройце, як і падавалася ў папярэдніх нумарох „Беларуса".

Аддзел БАЗА ў Дэтройце заклікае ўсіх Беларусаў, бяз розьніцы на арганізацыйную прыналежнасьць і палітычныя перакананьні, асабіста прыняць удзел у гэтай вялікай маніфэстацыі за сьвятыя правы Беларускага Народу.

Нашым пачэсным абавязкам ёсьць паказаць сваю салідарнасьць і непахісную волю да зьдзейсьненьня вялікіх ідэялаў, выказаных у векапомным Акце 25 Сакавіка 1918 году.

Сустрэча будзе праведзеная ў ваднэй з найпрыгажэйшых частак Дэтройту ў памешканьні American Serbian Memorial Hall, 19940 Van Dyke, at 8 Mile Road & Outer Drive, Detroit, Phone: FO-69668, якое будзе адчынена ўжо ад 7-ай гадзіны раніцы ў сыботу 31 жніўня 1968 г.

Па бліжэйшыя інфармацыі па прыезьдзе ў Дэтройт просім зьвяртацца да наступных асобаў: старшыні Аддзелу БАЗА сп. Юркі Мазуры, 29741 Hathaway, Livonia, Mich. 48150, Phone: 427-2622; скарбніка Аддзелу сп. Міколы Артона, 11393 Deering, Livonia, Phone: GA — 17506; сакратара Аддзелу д-ра Уладзімера Бакуновіча, 2053 Trowbridge, Hamtramck, Mich. 48212, Phone: 365-9604; віцэ-старшыні Галоўнай Управы БАЗА д-ра Язэпа Сажыча, 736 Lake БАЗА д-ра Язэпа Сажыча, 736 Lake Pointe, Grosse Pointe, Mich., Phone: 824-1836; гаспадара заляў на час Сустрэчы сп. Міколы Кумэйшы, 21164 Masch, Warren, Mich., Phone: SL 8-1828.

**Управа Аддзелу БАЗА ў Дэтройце**

## БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА — КАНСТЫТУЦЫЙНАЯ ПРАБЛЕМА ДЛЯ ЗН

За час свайго 20-цігадовага існаваньня Задзіночаныя Нацыі ўпяршыню сталі перад канстытуцыйнай праблемай у сувязі із сяброўствам у ЗН Беларускай і Украінскай савецкіх „рэспублікаў". Праблема ўзьнікла ў сувязі із заплянаванай канфэрэнцыяй не-атамавых дзяржаваў, што мае адбыцца ад 29 жніўня да 28 верасьня сёлета ў Жэнэве. Праблема зводзіцца да таго, да якіх дзяржаваў залічыць сяньняшнюю Беларусь і Украіну. Яны зьяўляюцца сябрамі Задзіночаных Нацыяў, як „незалежныя" дзяржавы, бо толькі такія могуць быць сябрамі гэтай сусьветнай арганізацыі, але дасюль за ўвесь час свайго сяброўства ў ЗН яны яшчэ ніразу не галасавалі інакш, як галасаваў іхны „старэйшы брат" — прадстаўнік Савецкага Саюзу, хоць, прыкладам, краі Брытанскага каманвэльту навет з прынцыпу звычайна галасуюць наўсуперак Ангельшчыне.

Калі-ж цяпер залічаць Беларусь і Украіну да не-атамавых краёў на тэй самай аснове „незалежнасьці", на якіх абапіраецца іхнае сяброўства ў ЗН, дык гэта было-б раўназначным з прызнаньнем Савецкаму Саюзу, які належыць да „атамавых дзяржаваў", аж двух галасоў сярод „не-атамных" дзяржаваў на канфэрэнцыі ў Жэнэве. Калі-ж іх залічыць да „атамавых дзяржаваў" на аснове іхнага фактычнага стану, гэта значыць поўнай залежнасьці ад Савецкага Саюзу, дык тады яны ня маюць права быць раўнапраўнымі сябрамі ЗН.

Тэхнічна Беларусь і Украіна павінны быць запрошаныя на канфэрэнцыю „не-атамных" дзяржаваў у Жэнэве, але фактычна яны, як частка Савецкага Саюзу і якія, будучы такімі, ня мелі-б — прыкладам — ані права, ані сілы забараніць Савецкаму Саюзу мець атамную зброю на складзе на іхных тэрыторыях, не павінны прыймаць удзелу ў Жэнэўскай канфэрэнцыі.

У часе дэбатаў у гэтай справе ў ЗН 13 чэрвеня прадстаўнікі Савецкага Саюзу, Беларусі й Украіны не забіралі голасу. Справа пакінутая для палагоджаньня Генэральнаму Сакратару ЗН У Танту, які высылае запросіны да ўдзелу ў Жэнэўскай канфэрэнцыі.

### П А Д З Я К А

**Прысутныя на абедзе ў гонар Доктара Алы Романо-Орса з нагоды атрыманьня ёю дактарату зь хімічных навукаў, зладжаным у нядзелю 23 чэрвеня, злажылі на Выдавецкі Фонд газэты „Беларус" 180 даляраў, за што Рэдакцыя й Выдавецтва „Беларуса" выказвае ім шчырае беларускае дзякуй.**

## УВАГА! УВАГА!

### Паважаныя Чытачы!

Тым нашым Чытачом, што залягаюць з падпіснай платай за газэту, мы разаслалі былі ў пачатку ліпеня адмысловыя лісты, у якіх прасілі іх заахвяраваць што-небудзь на газэту, а ў крайнім выпадку прынамся ўрэгуляваць падпіску за сёлетні год. Шмат якія чытачы „Беларуса" просьбу нашую выканалі, за што шчыра ім дзякуем.

Але шмат якія нат не адказалі на нашыя лісты. Улічваючы летні вакацыйны пэрыяд, калі некаторыя праводзяць свой адпачынак не на месцы свайго жыхарства й маглі атрымаць нашыя лісты спозьнена, мы ім яшчэ рассылаем гэты нумар газэты ў надзеі, што падпіска будзе ўрэгуляваная імі трохі пазьней.

**Выдавецтва „Беларуса"**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive. Jamaica. N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 6.00 yearly.
БЕЛАРУС — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртуваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.

# З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Беларускае арганізаванае культурна-грамадзкае жыцьцё ў Беласточчыне яшчэ зусім маладое. Яно мае за сабой усяго дванаццаць год. Пасьля перадачы Саветамі беларускай Беласточчыны Польшчы, на працягу першага паваеннага дзесяцігодзьдзя там ня было ніякіх магчымасьцяў для беларускага грамадзкага й культурнага жыцьця, а беларускае жыхарства было засуджанае на палянізацыю.

І толькі ў 1956 годзе было дазволена на зарганізаваньне Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства з цэнтраляй у Беластоку, аддзеламі ў паветах ды гурткамі ў пасобных мясцовасьцях. У гэным-жа 1956 годзе пачаў выходзіць у Беластоку й друкаваны орган Таварыства — тыднёвік „Ніва", а тэрыторыя беларускіх паветаў Беластоцкага ваяводзтва пакрылася сеткай беларускіх школаў із сярэднімі ўлучна — ліцэямі ў Бельску й Гайнаўцы. Таксама ў 1956 годзе была заснаваная катэдра беларускай філёлёгіі на Варшаўскім унівэрсытэце. На ўсёй тэрыторыі сучаснай Польшчы, дзе пераважае або жыве ў большай масе беларускае жыхарства, закіпела нацыянальнае беларускае грамадзкае й культурнае жыцьцё.

Шырака разгалінаваная беларуская дзейнасьць у Польшчы засяроджваецца вакол Беларускага Грамадзка - Культурнага Таварыства, якое ачольвае й кіруе ўсім беларускім культурным жыцьцём. Навет беларускае школьніцтва ў Беласточчыне, будучы ў сэньсе адміністрацыйным і падагагічна-мэтадычным падпарадкаваным дзяржаўным органам народнае асьветы, разьвіваецца пад наглядам, пры дапамозе і ў цесным кантакце зь Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыствам.

На 1-га студзеня сёлета, апрача свайго Галоўнага Праўленьня ў Беластоку, Таварыства мела дзесяць аддзелаў, зь якіх найбольшымі й найбольш дзейныя аддзелы ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы, Саколцы, Мілейчыцах, Міхалове, Гарадку і ў Варшаве, ды 173 гурткі. Усіх сяброў Таварыства было на 1 студзеня сёлета 6.093 асобы.

Галоўнымі галінамі дзейнасьці Таварыства — культурна-асьветная праца, мастацкая самадзейнасьць, выдавецкая справа, літаратурна-мастацкая дзейнасьць, дапамога беларускаму школьніцтву.

У галіне культурна-асьветнай у ваднным толькі леташнім годзе былі ў паасобных гуртках Таварыства прачытаныя 124 лекцыі й праведзеныя 153 гутаркі пераважна на беларускія культурныя, гістарычныя й літаратурныя тэмы ды часта адзначаліся важнейшыя нацыянальныя ўгодкі. Прыкладам, у ваднным толькі Беластоцкім аддзеле Таварыства былі ўрачыста адзначаныя 75-ыя ўгодкі ад нараджэньня выдатнага беларускага палітычнага, культурнага й навуковага дзеяча Браніслава Тарашкевіча, 450-ыя ўгодкі беларускага друку й дзейнасьці беларускага першадрукара й асьветніка Доктара Францішка Скарыны, 85-ыя ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа, 80-ыя ўгодкі ад нараджэньня Цішкі Гартнага, 900-ыя ўгодкі гораду Менску, а ў лютым сёлета Аддзел адзначыў 130-ыя ўгодкі ад нараджэньня Кастуся Каліноўскага. Апрача гэтага, Беластоцкі аддзел Таварыства наладзіў летась тры літаратурныя вечары: для паэткі Ларысы Геніюш з БССР і для паэтаў з Варшавы — Аляксандра Баршчэўскага й Віктара Швэда.

Асабліва плённая й шырака разгалінаваная мастацкая самадзейнасьць Беласточчыны. У гуртках Таварыства працавала летась 67 гурткоў мастацкай самадзейнасьці із 785 ўдзельнікамі, якія далі летась 480 канцэртаў. Пры шмат якіх гуртох існуюць аматарскія тэатральныя трупы, якія ставяць п'есы беларускіх драматургаў, сярод якіх не апошняе месца займаюць і мясцовыя аўтары. Гордасьцяй Беларусаў Беласточчыны — эстрадны ансамбль „Лявоніха" пры Галоўным Праўленьні Таварыства. Ад свайго заснаваньня ў канцы 1960 году й да канца сакавіка сёлета ансамбль „Лявоніха" ў розных кутках Беласточчыны даў 1530 канцэртаў, а на ўвесь сёлетні год запляноваў 242 канцэрты.

Апрача добра рэдагаванага тыднёвіка „Ніва" зь ілюстраваным дадаткам для дзяцей „Зорка", Таварыства разгарнула й кніжнае выдавецтва. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць выдаваньня ад 1957 году календары-кніжкі з багатымі інфармацыйным, сельска - гаспадарскім, папулярна-навуковым і літаратурным аддзеламі. Пра папулярнасьць беластоцкіх беларускіх календароў сьветчаць ужо іхныя тыражы, што дасягнулі шэсьць тысячаў экзэмпляроў і раўняюцца сярэднім тыражом беларускіх кніжкаў для масавага чытача ў звыш васьмімільённай БССР.

Зь іншых выданьняў трэба адзначыць вялікія альманахі твораў пісьменьнікаў Беласточчыны: „Рунь" з 1959 і „Белавежа" з 1966 году. Сябры заснаванага ў 1958 годзе беларускага літаратурнага згуртаваньня „Белавежа", апрача календароў і агульных альманахаў, друкуюць свае творы ў месячным літаратурным дадатку „Белавежа" тыднёвіка „Ніва", а таксама ў зборніках пасобных паэтаў. Дагэтуль вышлі асобнымі кніжкамі зборнікі вершаў Аляксандра Барскага „Белавескія матывы", Яшы Бурша „Прамень думкі" й Віктара Швэда „Жыцьцёвыя сьцежкі". У сёлетнім годзе, апрача календара на 1969 год, заплянавана выдаць другі зборнік вершаў Аляксандра Барскага, сьпеўнік для дзяцей Э. Гойліка, зборнік лекцыяў для навучаньня роднай гісторыі ды падрыхтаваць да друку зборнік вершаў Я. Чыквіна, аповесьць С. Яновіча й навуковы зборнік з галіны беларусаведы.

Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства вядзе курсы граматы й элемэнтарных асноваў беларусаведы для дарослых. Сёлета заплянавана 15 такіх курсаў. Таварыства выдала ўсе падручнікі зь беларускай мовы для V-VIII клясаў беларускіх школаў, сыстэматычна ладзіць настаўніцкія канфэрэнцыі на тэмы навучаньня беларускай мовы й літаратуры, а апошнім часам вядзе стараньні дзеля адкрыцьця завочнага аддзелу беларускае філялёгіі на Варшаўскім унівэрсытэце.

Наапошку трэба ўспомніць пра яшчэ адну важную дзялянку дзейнасьці Таварыства. Гэта — заснаваны Галоўным Праўленьнем Таварыства летась Беларускі Этнаграфічны Музэй у Белавежы. Не зважаючы на тое, што музэй знаходзіцца ў стадыі арганізацыі й ня мае адпаведнага памешканьня, ад траўня летась і да канца году яго наведала пяць з палавінаю тысячаў экскурсантаў, у тым ліку каля 300 із Савецкага Саюзу й 200 зь іншых краёў. Сёлета Таварыства прыступіла да будовы на грамадзкіх асновах адпаведнага будынку для гэтага музэю.

З гэтага, агульнага й далёка няпоўнага, агляду дзейнасьці Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства за леташні й частку сёлетняга году ўжо відаць, што сярод беларускага жыхарства Беласточчыны кіпіць беларускае культурна-грамадзкае й літаратурна-мастацкае жыцьцё.

**Ст. Станкевіч**

**Як даведваемся, „Адказ пісьменьніку Івану Пташнікаву" Станіслава Станкевіча, што быў надрукаваны ў папярэднім нумары нашае газэты, быў 18 чэрвеня перададзены на Бацькаўшчыну радыястанцыяй „Свабода".**

# АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

У суботу 29 чэрвеня сёлета адбыўся ў Лёндане, у памешканьні Беларускага Дому, 22-гі звычайны Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

Пасьля супольнае малітвы, старшыня Галоўнай Управы ЗБВБ П. Навара адчыніў Зьезд і прывітаў прысутных ім. Выбраная Зьездам Мандатная Камісія ў складзе Ул. Бутрымовіча, Я. Калбасы й М. Баяроўскага сьцьвердзіла правамоцнасьць Зьезду. Выбраны Прэзыдыюм Зьезду ў складзе Янкі Калбасы — старшыні й А. Лашука й а. архім. Л. Гарошкі — сакратароў пераняў кіраваньне Зьездам. Пасьля гэтага старшыня Зьезду папрасіў усіх устаць і хвілінаю цішыні ўшанаваць памяць нядаўна памерлага выдатнага беларускага вайскавіка, патрыёты й змагара за Беларусь Генэрала Францішка Кушаля.

### СПРАВАЗДАЧЫ

Затым адбыліся справаздачы зь дзейнасьці ЗБВБ за мінулы год. У сувязі зь юбілейным годам БНР шмат працы было праароблена як Галоўнай Управай, гэтак і Аддзеламі ЗБВБ дзеля належнага ўшанаваньня гэтага юбілею. З нагоды юбілею Галоўная Управа выдала адпаведную брашуру ў ангельскай мове пра БНР і Акт 25 Сакавіка. Былі зладжаныя ў Лёндане дзьве акадэміі, прысьвечаныя 50-ым угодкам БНР: адна для беларускага грамадзтва Лёндану й аколіцаў у Беларускім Доме, другая — у залі Бэльгійскага Клюбу ў Лёндане для прыязных да Беларусаў выдатных Ангельцаў — дзяржаўных, палітычных і дыпляматычных дзеячоў ды прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў.

Аддзелы ЗБВБ у Бірмінгам, Брадфардзе й Манчэстары таксама ўшанавалі юбілей БНР урачыстымі акадэміямі. Аддзел у Брадфардзе выдаў каляровыя юбілейныя канвэрты й віншавальныя карткі БНР.

Справаздачы чыталі: зь дзейнасьці Галоўнай Управы — ейны старшыня П. Навара, пра фінансавы й матарыяльны стан арганізацыі былі прачытаны рапарт аўдытара, касавую справаздачу зрабіў скарбнік П. Асіповіч. Пра дзейнасьць Харытатыўнай Сэкцыі пры Галоўнай Управе паінфармаваў а. Леў Гарошка. Пра Беларускі Грамадзкі Клюб у Манчэстары абшырна паінфармаваў ягоны сакратар М. Яськевіч. Справаздачу зь дзейнасьці Брадфардзкага Аддзелу й Беларускага Юнацкага Клюбу зрабіў старшыня Я. Калбаса. Справаздачу мужа даверу зь Бірмінгамскага Аддзелу прачытаў М. Баяроўскі, а справаздачу з Манчэстарскага Аддзелу — М. Віценька. Янка Сяўковіч даў інфармацыю пра дзейнасьць Лёнданскага Аддзелу.

У далейшым заслуханыя былі справаздачы адміністратараў Беларускіх Грамадзкіх Дамоў: Я. Калбасы — з Брадфарду, П. Навары — зь Лёндану й М. Віценькі — з Манчэстару.

Сьледам за справаздачамі адбыліся дыскусіі над імі, якія мелі рэчовы й паважны характар. Яны выявілі, што дзейнасьцяй ЗБВБ, якая праз 22 гады існаваньня арганізацыі ніколі не спынялася, павінен ганарыцца кажны Беларус. Хоць былі падчыркнутыя й недахопы, Зьезд, на прапазыцыю Нагляднае Рады, прызнаў акламацыямі ўступаючай Галоўнай Управе абсалюторыюм з падзякаю.

### ДАСТОЙНЫЯ ГОСЬЦІ

Перад тым, як меўся быць абвешчаны перапынак, у залю Зьезду завіталі важныя госьці ў васобах лёрда Аўбэрона Гэрбэрта — старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства, і сп. Гай Пікарда — сакратара Таварыства. Паважаных гасьцей горача прывітаў старшыня Зьезду, пасьля чаго лёрд А. Гэрбэрт выступіў з прывітальнай прамовай. Між іншым ён сказаў: „Шчыра вам дзякую за добрае бесьперапыннае супрацоўніцтва між нашымі арганізацыямі — ЗБВБ і Ангельска-Беларускім Таварыствам. Пры кажнай нагодзе й патрэбе я буду старацца бараніць справы Беларусаў і Беларусі. Дазвольце перадаць вам пажаданьні добрых посьпехаў у працы ад Лейды Мэкмілян, якая толькішто была выбраная за віцэ-прэзыдэнта Кансэрватыўнай Партыі Вялікабрытаніі". Лейды Мэкмілян зьяўляецца віцэ-старшынём Ангельска-Беларускага Таварыства й вельмі шмат для яго працуе. З гэтае нагоды Прэзыдыюм Зьезду выслаў прывітальную тэлеграму Лейды Мэкмілян.

### ВЫБАРЫ

Старшыня Зьезду Я. Калбаса зрабіў наступную прапанову: з увагі на тое, што сябры Галоўнай Управы ЗБВБ вельмі добра вывязаліся із сваіх абавязкаў у мінулым годзе, прасіць старую Галоўную Управу застацца й на наступны год. Прапанова гэтая была прынятая бурнымі воплескамі, і старая Галоўная Управа засталася й на наступную кадэнцыю. Ейны склад гэткі: Павал Навара — старшыня, а. архім. Леў Гарошка — віцэ-старшыня, Янка Міхалюк — сакратар, Павал Асіповіч — скарбнік.

Засталася бязь зьмены й старая Наглядная Рада ў складзе: а. Аляксандра Надсана, а. Янкі Абабуркі й Янкі Сяўковіча. Аўдытарам быў назначаны Джозэф Гаянс, які займае гэтае становішча ад мамэнту залегалізаваньня арганізацыі.

### ДЛЯ ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС"

Прыймаючы ініцыятыву Брадфардзкага Аддзелу ЗБВБ, Зьезд заклікаў сваіх удзельнікаў, заміж вянка на магілу сьв. пам. Генэрала Францішка Кушаля, злажыць ахвяры на Выдавецкі Фонд газэты „Беларус", якая шырака асьвятляе й дзейнасьць Беларусаў у Ангельшчыне. Тут-жа было сабрана 48 фунтаў, 2 шылінгі й 6 пэнсаў на гэтую мэту. Управы Аддзелаў ЗБВБ забавязаліся й надалей праводзіць збор грошай на „Беларуса".

Зьезд закончыўся прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### БАГАСЛУЖБЫ ДЛЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ЗЬЕЗДУ

З нагоды 22-га Зьезду ЗБВБ ў нядзелю 30 чэрвеня былі адпраўленыя ўрачыстыя Багаслужбы: для каталікоў — а. архім. Львом Гарошкам у капліцы сьв. Пятра й Паўлы ў Марыянскім Доме, для праваслаўных — а. Янкам Абабуркам, настаяцелем БАПЦ у Вялікай Брытаніі, у Беларускім Доме. Пасьля Багаслужбаў адбыўся супольны сяброўскі абед, за падрыхтаваньне якога застаецца падзякаваць сяброўкам ЗБВБ сп-ням Тур і Міхалюк.

### КАНЦЭРТ ВУЧНЯЎ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Удзельнікі Зьезду мелі нагоду пабыць на канцэрце вучняў Беларускае Школы імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане пад кіраўніцтвам беларускіх Айцоў Марыянаў.

Праграма канцэрту была вельмі ўдала зрыхтаваная, а выкананьне — на высокім узроўні. Маладыя выканальнікі выступалі з рознымі музычнымі інструмэнтамі, але мэлёдыі і ўвесь рэпэртуар былі беларускія: народныя песьні й танцы, а так-жа беларуская клясычная музыка. Прыгожыя народныя вопраткі розьніліся сваімі ўзорамі, а гэта паказвала, што выканальнікі паходзяць з розных мясцовасьцяў Беларусі. Сваім выступленьнем пад кіраўніцтвам Г. Пікарда яны пакінулі ўзапраўды мілае ўражаньне.

Пасьля канцэрту ўдзельнікі Зьезду пазнаёміліся зь Беларускім Музэем, Архівам і Бібліятэкай беларускіх Айцоў Марыянаў у Лёндане ды Выстаўкай, прысьвечанай 50-ым угодкам БНР.

Для ўвагі зацікаўленых падаём наступныя адрасы:

1. Association of Byelorussians in Gt. Britain. 52 Penn Road, London, N. 7.
2. Byelorussian School for Boys 44 Holden Road, London N. 12.
3. Byelorussian Museum 39 Holden Road, London N. 12.
4. Byelorussian Library Marian House, Holden Ave., London N. 12.

**Янка Крушына**

# АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА АКРУГІ НЬЮ ЁРК

Сход адбыўся ў нядзелю 16 чэрвеня ў сваім собскім памешканьні пры 401 Атлянтык авэню ў Брукліне (пад царквой), якое з прычыны злоснае самаволі некаторых людзей было на працягу чатырох год для БАЗА недаступнае, як зазначыў старшыня Управы Акруговага Аддзелу БАЗА д-р Ул. Набагез, адчыняючы Сход. Прэзыдыюм Сходу быў выбраны ў складзе: П. Манькоўскага — старшыні, Вольгі Запруднік і Ул. Русака — сакратароў.

Паводле справаздачы ўступаючай Управы, дзейнасьць Аддзелу за мінулы год прадстаўлялася гэтак: Адбылося 6 паседжаньняў Управы й адзін інфармацыйны сход. Управа вяла перамовы зь іншымі групамі Беларусаў дзеля ўнармаваньня дачыненьняў з імі й наладжаньня супрацоўніцтва, што, аднак, не дало пазытыўных вынікаў.

Нью'ёркаўская Акруга БАЗА прыняла актыўны ўдзел у Тыдні Паняволеных Народаў у Нью Ёрку ў ліпені летась, 5 жніўня летась зладзіла была разьвітальны вечар із сваёй актыўнай сяброўкай паэткай Натальляй Арсеньневай, якая пераехала на стала ў Рачэстар, штату Нью Ёрк, а 6 верасьня зарганізавала прыняцьцё ў гонар беларускага сьвятара а. Робарта Тамушанскага, які, будучы ўжо ў трэйцім пакаленьні Амэрыканцам, застаўся шчырым беларускім патрыётам і захаваў беззаганную беларускую мову.

26 кастрычніка летась была зарганізаваная танцавальная вечарына, папярэджаная інфармацыямі пра Дзень БССР на сусьветнай выстаўцы ў Мантрэалі. Прадстаўнікі Акруговага Аддзелу БАЗА прынялі ўдзел у канфэрэнцыі ЗБМА ў Нью Брансьвіку 27 лістапада. Таксама ў лістападзе летась Аддзел зарганізаваў вечар з нагоды 85-ых угодкаў ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа з дакладам д-ра Ст. Станкевіча. Пасьля афіцыйнай праграмы на вечары была праведзеная дыскусія ў справе кірунку й характару газэты „Беларус". У пачатку сьнежня быў зладжаны вечар на ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

Нью'ёркаўскі Аддзел БАЗА прыймаў актыўны ўдзел у арганізацыі й правядзеньні сьвяткаваньня 50-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка ў Нью Ёрку 24 сакавіка, а таксама ў вадзначаньні 25-ых угодкаў выкананьня функцыяў прэзыдэнта Рады БНР сп. Міколам Абрамчыкам, якое было зладжанае 31 сакавіка ў Нью Брансьвіку.

Пры Акруговым Аддзеле БАЗА функцыянаваў Цэнтр Аховы Здароўя, у якім час ад часу д-р Ул. Набагез праводзіў бясплатныя лекарскія агляды сяброў БАЗА. Ізь сяброў Нью'ёркаўскага Аддзелу ў васнаўным камплектуецца Рэдакцыя й адміністрацыйны пэрсанал газэты „Беларус". Аддзел заўсёды актыўна супрацоўнічаў зь герархіяй БАПЦарквы й зь Япархіяльнай Управай БАПЦ.

З прачытанай справаздачы няпрысутнай на Сходзе культурна-асьветнага рэфэрэнта Управы й кіраўнічкі Беларускай Сыботняй Школы ў Нью Ёрку сп-ні З. Станкевіч было відаць, што Беларуская Школа ў Нью Ёрку апошнім годам перажывала глыбокі крызіс з прычыны абыякавых дачыненьняў да школы бальшыні бацькоў, а таксама адмовы шмат якіх настаўнікаў працаваць у школе.

Пасьля кароткай дыскусіі над справаздачамі Сход прызнаў уступаючай Управе Аддзелу абсалюторыюм з падзякаю.

У новую Управу Нью'ёркаўскага Акруговага Аддзелу БАЗА выбраныя: Міхась Тулейка — старшыня, Уладзімер Русак, Галіна Орса, Валянцін Міцкевіч і Вячаслаў Станкевіч — сябры Управы. У склад Рэвізійнае Камісіі ўвайшлі: Пётр Мірановіч, Мікола Кунцэвіч і Пётр Манькоўскі.

У абмеркаваньні пляну працы на будучы год асноўная ўвага была зьвернутая на патрэбу палепшаньня стану Беларускае Сыботняе Школы. Было пастаноўлена ўрачыста адзначыць у 1969 годзе 20-ыя ўгодкі БАЗА й 50-ыя ўгодкі ад сьмерці піянера беларускага адраджэнскага руху Івана Луцкевіча.

Сход закончыўся прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

### ЮБІЛЕЙ БАПЦ У МЭЛЬБУРНЕ

Мэльбурнская парахвія БАПЦарквы 9 чэрвеня адзначала падвойны юбілей: 1. 20-цігодзьдзе аднаўленьня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў 1948 годзе й 2. 10-цігодзьдзе адчыненьня ў 1958 годзе парахвіі БАПЦарквы ў Мэльбурне. Мае сваю вымову тое, што абедзьве падзеі былі дасягнутыя ў чэрвені — у Дзень Сьв. Еўфрасіньні Полацкай — Патронкі Беларусі.

З нагоды падвойнага юбілею а. Аляксандар адправіў урачыстую Багаслужбу й Вячэрню, пасьля чаго сказаў чулую пропаведзь на тэму абодвых юбілееў.

# ДАЛЯГЛЯДЫ

## ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК № 3.

## УЛАДЗІМЕР КАРАТКЕВІЧ



Нарадзіўся 26 лістапада 1930 г. у Оршы ў сям'і служачага. Вучыўся на філялягічным факультэце Кіеўскага ўнівэрсытэту, пасьля сканчэньня якога ў 1954 г. некалькі год выкладаў расейскую мову й літаратуру й сярэдняй школе Кіеўскай вобласьці, пазьней нейкі час працаваў выкладчыкам мовы й літаратуры ў сярэдняй школе ў Оршы. Скончыў вышэйшыя літаратурныя курсы пры Союзе Пісьменьнікаў СССР у Маскве. Упяршыню выступіў у друку зь вершамі ў 1955 г.

Выдаў зборнікі паэзіі „Матчына душа" (1958) і „Вячэрнія ветразі" (1960) ды кнігу аповесьцяў і апавяданьняў „Блакіт і золата дня" (1961). Сёлета мае выйсьці трэйці зборнік ягоных вершаў „Мая Ільяда". Караткевіч піша й драматычныя творы, сцэнарыі для фільмаў ды мастацкія нарысы.

Караткевіч адзіны ў нашай літаратуры пісьменьнік, што распрацоўвае тэмы зь гістарычнай мінуўшчыны Беларусі, засяроджваючы сваю ўвагу галоўна на паўстанскай дзейнасьці Кастуся Каліноўскага. У розных літаратурных часапісах зьявіліся дагэтуль наступныя ягоныя творы на гістарычныя тэмы: аповесьць „Раман Ракута" (1961) пра сялянскае паўстаньне ў Магілеўшчыне ў 16 стг., раман „Нельга забыць (1962), разгорнуты пралёг якога пра паўстаньне Кастуся Каліноўскага, а галоўная ягоная частка пра сучасную беларускую інтэлігенцыю, сярод якой жывыя традыцыі Каліноўскага, легендарна-гістарычная аповесьць „Дзікае паляваньне караля Стаха" (1964), першая частка вялікага раману пра падрыхтоўку Кастусём Каліноўскім паўстаньня „Каласы пад сярпом тваім" (1965), сатырычная легэндарна-гістарычная аповесьць з 16 стг. „Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (1966). У пералічаных творах Караткевіч насьвятляе гістарычную мінуўшчыну Беларусі ў ейным праўдзівым нацыянальным аспэкце. Гэта сталася прычынай, што ніводзін зь ягоных твораў на гістарычную тэму не зьявіўся дагэтуль кніжным выданьнем, а іхны аўтар, паводля выражэньня Янкі Брыля, „пісьменьнік цікавага таленту і пакулышто нялёгкага лёсу".

У 1967 г. Уладзімер Караткевіч надрукаваў вельмі прыгожую лірычную аповесьць з жыцьця сучаснае моладзі „Чазенія".

### МАЛЕНЬНЕ ДА БОГА РЭК

*Божа рэк, ажані*
*Мой Дняпро з прыгажуняй Акой.*
*У яго — крутаяры ў зэніт,*
*У яе — лукавіны спакой.*
*Ён мужчына. Над ім — курганы,*
*Зьмеі соснаў — кронамі ўніз,*
*А над ёю — пракосаў сны*
*І дзявочых сьвятліц агні.*
*Ён ад страсьці рве берагі,*
*Асіянаўскі месяц над ім,*
*І туман плыве на лугі,*
*Як начнога змаганьня дым.*
*Трупы мокрыя чорных дубоў —*
*Нібы яшчары ў берагах,*
*А на дне — карагоды віроў*
*І дрыжачых багновак жах.*
*Месяц кроў пралівае ў яго,*
*Кроў сьцякае з ласіных губ*
*На патопленых даўніх багоў,*
*На бязьмежную іх тугу.*
*А над ёю жаўрук пяе,*
*І калі сьмяецца зара,*
*Кісьці скрыпня над ложам яе,*
*Як вясельныя сьвечы, гарацъ.*
*Калі хочуць стракозы піць,*
*Ў самы ярасны сонечны ўзлёт*
*У тваіх гарлачыках сьпіць*
*Нерасталы блакітны лёд.*
*У сьвяцёлках тваіх агні*
*Здаўна мараць аб сіле такой . . .*
*Чым ня муж табе, не жаніх,*
*Не сьцяна для пакоры тваёй?*
*Чым ня муж табе, не жаніх,*
*Ня любоў для любові тваёй?*

.................................................

*Божа рэк зямных, ажані*
*Дняпро з прыгажуняй Акой.*

(1966 г.)

* * *

*Бацькі з магіл цяплом дыхнулі,*
*З узгоркаў сьнег схаваўся ў роў,*
*І кожны горб шуміць, як вулей,*
*Ад спрэчкі кветак і чмялёў.*
*Загіне, хто ў мінулым дрэме:*





## НІЛ ГІЛЕВІЧ

Нарадзіўся ў 1931 г. у в. Слабада на Лагойшчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў Менскае пэдагагічнае вучылішча, пасьля філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Закончыўшы асьпірантуру, працуе выкладчыкам беларускай літаратуры ў гэтым унівэрсытэце.

Выдаў наступныя зборнікі паэзіі: „Песьня ў дарогу" (1957), „Прадвесьне ідзе па зямлі" (1959), „Неспакой" (1961), „Бальшак" (1965), „Перазовы" (1967), а таксама колькі зборнікаў вершаў для дзяцей. Сёлета мае выйсьці новы ягоны паэтычны зборнік „Лісьце трыпутніка". Ніл Гілевіч сыстэматычна працуе над перакладамі ў беларускую мову твораў баўгарскіх пісьменьнікаў.

Ягоная паэзія вызначаецца шчырай і гарачай пачуцьцёвасьцяй, публіцыстычным патасам у рэагаваньні на зьявы актуальнага жыцьця, глыбокімі нацыянальнымі думкамі й палкай патрыятычнай любасьцяй да роднага краю, ягонае нацыянальнае мінуўшчыны, мовы й песьні.

* * *

*Край мой беларускі, край!*
*Дай мне прыгарнуцца, дай!*
*Да твайго ляснога*
*Вераснога долу,*
*Дзе так шчасьця многа*
*Выпала на долю, —*
*Дай-жа прыгарнуцца, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне напіцца, дай!*
*Той вады гаючай*
*З той крыніцы вечнай,*
*Дзе ад ран балючых*
*Ты арлоў вылечваў, —*
*Дай-жа мне напіцца, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай ты мне паслухаць, дай!*
*Як на лад пявучы*
*Старажытнай мовы*
*Тут гамоняць пушчы,*
*Там шумяць дубровы, —*
*Дай-жа мне паслухаць, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай-жа мне прайсьціся, дай!*
*Па тваіх прасторах,*
*Па шляхох бясконцых,*
*Уначы — пры зорах,*
*Раніцой — пры сонцы, —*
*Дай-жа мне прайсьціся, дай!*

*Край мой беларускі, край!*
*Дай мне наглядзецца, дай!*
*На тваё на пожні,*
*На лугі ды рэкі,*
*Каб у час апошні*
*Ўзяць з сабой навекі, —*
*Дай-жа наглядзецца, дай!*

(1966 г.)

---

*Буяна травы ймкнуць да зор,*
*Невыперадкі, напярэймы,*
*Узахапы і насупор.*
*Сок ходзіць па мільёнах лесьвіц,*
*Па клетках — аж да верхавін,*
*Каб падарыць сусьвету песьні,*
*Здабытыя зь зямных глыбінь.*
*Ляжу каля лясных узбочын,*
*Ляжаць і ждуць мяне гады,*
*І п'юць уськінутыя вочы*
*Ўсю повень неба і вады.*
*Я повен шчасьця—вочы сплюснуў,*
*Спляліся валасы з травой,*
*І мятлушка сядзіць на вуснах,*
*Каб разам уздыхаць са мной.*
*Даволі марнай жыць пагоняй,*
*Жывецца або не — жыві!*
*Багоўка у тваёй далоні,*
*Як кропля цёплая крыві.*

### ПРЫВІТАЛЬНАЕ

*Сьпявайце юныя паэты!*
*Сьпяліце ў бурах пачуцьця*
*Неўтаймаваны боль плянэты,*
*Непераможны крык жыцьця!*

---

*І зноў бязьмежны сьвет чакае,*
*Сьвет сэрцаў, песень і бароў.*
*Дай мне, вясна, шляхі бяз краю,*
*Дай сэрцу вечную любоў.*

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

*Магчыма, вам якраз і зьдзейсьніць*
*Дзядоў вялікіх запавет:*
*Узьняцца так на крыльлях песьні,*
*Каб чуў і бачыў цэлы сьвет!*

*Назло пракорам самазваным,*
*Што глуха каркаць пачалі,*
*Сьпявайце сьпевам нячуваным*
*На мове любай вам зямлі!*

*Сьпявайце, помнячы нязьменна:*
*Пакуль паэты будуць пець —*
*Ня быць Радзіме бязыменнай,*
*Зямлі бацькоў — не анямець!*

(1965 г.)

* * *

*У старажытным гарадку над*
*Гайнаю,*
*Ля зруйнаванай кляштарнай*
*сьцяны,*
*Я думаю, як дзіка, як нядбайна мы*
*Парою ставімся да старыны.*

*Чым ганарыцца перад сьветам*
*варта нам,*
*Чым даражыць павінен чалавек, —*
*Ірвём, грызём, руйнуем*
*эскаватарам —*
*Тэхнічны, балазе, дваццаты век!*

*Гісторыю трымаюць у пашане ўсе.*
*Навошта-ж безаглядна так*
*наўсьцяж*
*Мы разбураць мінулае*
*сьпяшаемся,*
*Як-бы яно — галоўны вораг наш?*

*Хіба ня з працы гаратліўцаў —*
*прадзедаў*
*Яно вякамі паўставала тут?*
*Чаму-ж няўдзячна гэтак*
*абакрадзена*
*Зямная памяць іх зямных пакут?*

*Асьцеражней, таварыш, ізь*
*сьвятынямі.*
*Чым замяніць іх думаеш, скажы?*
*Страшней за ўсё, як робяцца*
*пустынямі*
*Палеткі плодныя людзкой душы.*

(1965 г.)

*Не баюся, што мой век ня вечны,*
*Што падамся за дзядамі сьледам.*
*Калі міт пра пекла недарэчны —*
*Дык чаго баяцца стрэчы зь дзедам?*

*Пашкадую толькі, што замала*
*Даражыў нявечнымі дарамі:*
*І язьміннымі начамі маю,*
*І дажынкавымі вечарамі.*

*Пашкадую, што пайду ад гэтых*
*Дарагіх і мілых сэрцу гоняў,*
*Што на сьцежках-пуцявінах сьвету*
*Не пацісну ўжо сябром далоняў.*

*А мацней за ўсё я пашкадую*
*Перад тым, як сьвет пакінуць*
*весьні,*
*Што ўжо больш ніколі не пачую*
*Нашай роднай беларускай песьні.*

(1966 г.)

---

# КАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ

### З РАЗЬДЗЕЛУ 22

Спачатку выпусьцілі свае коцікі вербы. Потым, перад Вялікаднем, пачалі сачыцца празрыстым сокам пні сьсечаных бяроз. Потым пушынкі сталі зялёныя, а лясы — цёмныя. Потым плакалі перад Купальлем травы: меліся назаўтра загінуць. А пасьля прыйшла чарга палегчы каласом.

Год не парадаваў. Ён шмат абяцаў дружнай, добрай вясною і спорнымі, цёплымі, як пацалунак, і буйнымі, як жарства, дажджамі. А потым нічога ня даў. Зноў ня даў. Каторы ўжо раз.

Дажджы пайшлі бесьперапынна. Парасткі захлыналіся ў глыбокай халоднай гразі, жоўклі й гнілі. А з канца красавіка навалілісся халады і цупка трымалі нівы аж да сярэдзіны чэрвеня. Зямля, калі засунуць у яе руку, была сьцюдзёная й ліпучая як глей, выкінуты з самога дна магілы.

Дні й ночы сталі цёплыя толькі ў канцы чэрвеня. Голад як быццам падрыхтаваў глебу для свайго зімняга жніва і шчодра кінуў людзям непатрэбную цяпер цяплыню.

Пан Юры й стары Вежа ў канцы ліпеня напалову спустошылі „магазыны"*), даючы збожжа ў пазыкі, і, разумеючы, што спадзявацца няма на што, адпусьцілі мужыкоў на гадавы аброк. Хай ідуць з плытамі, хай адпраўляюцца ў звоз, хай дабіраюцца на будову чыгункі — абы ня голад, абы ня спустошыць „магазынаў" да дна. Бо невядома яшчэ, што абяцае наступны год.

Малодшыя рады пачалі ляментаваць аб дапамозе.

*) Сьвірны для запасаў насеннага збожжа або запасаў на выпадак неўраджаю (Аўтар).

У канцы ліпеня лямант аб дапамозе даляцеў зь мястэчка Сьвіслач, дзе жыла далёкая сваячка пані Антаніды, стрыечная сястра яе маці, Тацяна Галіцкая. Пан Юры надумаў накіраваць туды трыццаць вазоў насеннага збожжа: няхай спадзяюцца хаця-б на наступны год. Паслалі яшчэ і трыста рублёў грашыма, каб быў заклад на выпадак сапраўднага голаду, каб можна было хоць раз на дзень карміць гарачым дзяцей, жанчын і слабых (у „цёткі" было нешта каля васьмідзесяці душ, жыла яна адна, прасіла толькі аб насеньні — магчыма, нейк і пераб'ецца зь людзьмі).

Праводзіць абоз павінен быў Алесь. Па-першае, людзі з канторы былі ў разгоне; па-другое, хай звыкае да спраў; па-трэцяе, час хлопцу паглядзець сьвет.

І пачалася далёкая дарога.

Рыпелі колы вазоў, ішлі ля іх мужыкі. А малады Загорскі то ехаў ля абозу на мышастай Касюньцы, то зварочваў з дарогі і скакаў мяккімі прасёлкамі, праязджаючы вёскі й хутары, то ляжаў высока на возе і глядзеў на залатыя аблокі.

Якія бясконцыя дарогі! Якія заблытаныя раздарожжы зь дзесяткамі сьцежак, што ўліваюцца ў іх! Якія пахілыя драўляныя крыжы, усе шэрыя і ў глыбокіх трэшчынах, стаяць на скрыжаваньні шляхоў!

. . . .Сьвіслач, аб якой Алесь дагэтуль нават ня чуў, была маленькім мястэчкам.

Сярод будынкаў ці не самым вялікім здаваўся будынак прагімназіі. Але й ён быў запушчаны, як амаль усе астатнія будынкі мястэчка. Там, дзе колісь былі пляцоўкі для гульні ў мяч, куртыны й баскетныя агароджы, цяпер — і на двары і на вуліцы — цягнуліся зарасьці пахучых дробных рамонкаў ды трыпутніку, сярод якіх губляліся сьцежкі.

Мястэчка рыхтавалася да гадавога кірмашу, які меў пачацца пасьлязаўтра, пятнаццатага жніўня, і таму на пляцы было ўжо даволі густа і людна.

Дом цёткі быў за палову вярсты ад канца мястэчка: вялікі, драўляны, пад саламянаю страхою — на галерэях і шчапяным дахам — над жылымі пакоямі. Вялікі сад спускаўся ў вільготны, звонкі ад шматлікіх ручаін цяністы яр.

У доме былі старасьвецкія ўтульныя пакоі зь нізкаю стольлю.

Цётка, маленькая рухавая жанчына ў акулярах, сустрэла Алеся з радасьцю.

— Прыехаў, сынок . . . Ну, вось і добра ўжо, што прыехаў. Кірмаш пачнецца, панаедуць навакольныя з хлопцамі ды дзеўкамі . . . Будзе і ў нас весела . . .

. . . Празь дзень, на Спаса, пачаўся сьвіслацкі кірмаш. Гандлёвыя рады падаліся далёка за пляцовыя межы.

Гандляры спрытна матлялі на медны аршын вішнёвыя й белыя сукны. Сьвістаў, па-зьмяінаму зьвіваючыся ў паветры, шоўк. Паўзла шарсьцянка, і весела, як дзяўчына на весьнім поплаве, бегла баваўнянка.

— Гарлачы - гарлачы - гарлачы! Зьвіняць як званы, зьвіняць як войтава галава!

— Зя-леза, зя-леза, — гэта басам.

— Кас-са — на аконама, бязьмен — на цешчу!

Узьляталі, як карабель на хвалях, стракатыя арэлі. Адтуль даносіўся няшчыры дзявочы віск.

— Вось навалілісся! Вось навалілісся! Усё дорага — маё дзёшава. Усё даражэй — маё дзешавей. Дзешавее мыла, дзешавеюць вяроўкі.

Катрыншчык-Італьянец сьпяваў сухотным голасам пра невядомае. Малпа ў зялёнай сукенцы цягнула далонь, скакала ля гаспадара і глядзела ў вочы гаротна-непаразумелымі дзіцячымі вачыма.

Гандляваў тканінамі прыгожы Пэрс з палымянай барадою. Вадзіў мішку Цыган.

— Баця, падыходзь — пажартуем!

Спрачаўся зь белавалосым мужыком конскі перакупшчык. Гучна, напэўна, аж балела, біў у карычневую, як зямля, далонь, гучна кусаў аброць на знак таго, што не маніць, што няхай ягоныя зубы выпадуць раней конскіх зубоў.

Алесь хадзіў сярод рознагалосага, стракатага мора трошкі ачмурэлы і як быццам сонны, але радасна ўзрушаны. Сонныя былі вочы, узрушанае было сэрца.

. . . Каля сьляпога старца зь лірай амаль ня было людзей: ня даць — грэх, а даць ня было чаго. Акрамя дзьвюх жанчын, якія плакалі, ля яго стаяў толькі адзін яшчэ хлопец, можа на нейкі год старэйшы за Алеся, нявысокі, каржакаваты, зь цёмнарусымі прыгожымі валасамі. Рысы ў хлопца былі няправільныя, але буйныя й нават ў чымсьці гожыя. Цяжкаватае падбародзьдзе, вялікі цьвёрды рот. Жарсткаваты няправільны нос. З тысяч і тысяч людзей, па аднэй толькі форме носу з крутымі ноздрамі, Алесь заўсёды пазнаў-бы ў ім мясцовага, тутэйшага.

Невялікія, сінія з залатымі іскрынкамі, вочы хлопца былі цяпер задумлівыя й мяккія. Пасма валасоў падала на высокі чысты лоб. Ён слухаў. Слухаў, нахмурыўшы тонкія й чорныя, нібы тушшу наведзеныя, бровы.

Алесь стаў побач зь ім, таксама пачаў слухаць пад тужлівыя ўздыхі баб.

*Ой, то ня чорная хмара падступае.*
*То турэцкі кароль наступае.*

Турэцкі кароль наступаў, каб узяць за сябе Андрэеву дачку. І ня толькі яе.

*Сватаць нівы, бары і разлогі,*
*І лугі, і праўдзівага Бога.*
*Сватаць дым у закуранай хаце,*
*Ўсю зямлю нашу бедную сватаць.*

І ня вытрымала жаночае сэрца. Андрэева дачка ўцякла ў лес, і седзячы ў разгаліне дуба, рыхтавала падарункі каралю, загадвала сяброўкам вастрыць нажы, каб кроіць імі для яго ручнікі. І вось кароль падступіў з усёй сваёй чорнай сілай . . . І тады . . .

*Не папала яна ў палаценца,*
*А папала ў шчырае сэрца,*
*І каню пад падковы ўпала.*
*Паміраючы-ж, так прамаўляла:*

*Ой, ня будзеш ты мець, чарнарогі,*
*Ні лугоў, ні праўдзівага Бога,*
*Ні бароў, ні дзяўчат, ні багацьця,*
*Ані дыму ў закуранай хаце.*

*За якое ні схопішся сэрца —*
*Ўсе адкажуць адзінаю сьмерцю.*
*І адкажуць пажарамі хаты*
*І зямелька, якую ты сватаў.*

Жабрак змоўк. Хлопец цяжка, быццам ад сну адрываючыся, уздыхнуў і кінуў на ліру тры медныя капейкі. Непаразумела абвёў вачыма Алеся. І раптам вочы сталі гіранічныя й трошкі злосныя: убачыў, што гожы падлетак з шэрымі вачыма хоча пакласьці на ліру срэбны паўрубель.

— Здурэў, ці што? — спытаў ён кплівым голасам.

Алесь цярпець ня мог, каб зь яго кпілі незнаёмыя.

— Цябе ня спыталі, — сказаў ён.

— Яно й відаць, што з залатых каптаноў. Галоўка — як макаўка, а розуму — як . . .

Алесь ведаў, што працяг прыказкі злосны й няпрыстойны.

— А ты паўтарыў-бы, — з пагрозаю сказаў ён.

## АПОШНЯЕ СПАТКАНЬНЕ З ВЭРАНІКАЙ

Нават сьціплая надзея памерці ў роднай зямлі і тая была адабрана . . .

**З успамінаў бацькі паэты — Адама Багдановіча.**

*Далёка ад роднага краю,*
*Чый вобраз па кроплі зьбіраў,*
*У трызьненьні белага маю*
*Самотны паэт паміраў.*

*Ён ведаў, што болей ня ўстане,*
*Апошнія зьлічаны дні.*
*Чаму-ж аніхто не загляне*
*Зь вялікай і мілай радні?*

*Няшчасная доля — памерці*
*У смутку-тузе аднаму.*
*Дзьвярыма на першым паверсе*
*Хтось грукнуў, здалося яму.*

*Во—крочыць па ўсходках рыпучых,*
*Во — клямкаю бразгае ўжо.*
*І стала ад шчасьця балюча:*
*Няўжо гэта праўда? Няўжо?*

*О, Божа! Сама Вэраніка!*
*Яго Вэраніка стаіць!*
*Галоўкаю русай панікла,*
*Журботна, тужліва глядзіць.*

*Букет васількоў і рамонкаў*
*Сьціскае ля сэрца рукой . . .*
*Праклятая Богам старонка*
*Зайшла да паэты ў пакой!*

*— Ну, што-ж ты стаіш, Вэраніка?*
*Ня бойся! Бліжэй падыдзі!*
*Я столькі гадоў цябе клікаў —*
*І ўсё заставаўся адзін*

*Я зьведаў хвіліну адчаю*
*У гэтай чужой старане.*
*Цяпер адзінота, я знаю,*
*Навечна пакіне мяне . . .*

*За вокнамі пеніўся буйна*
*Захмелены ялцінскі май.*
*За вокнамі ўсплёснула бухта:*
*— Ня плач, Вэраніка! Бывай!*

*Яшчэ ты пасьпееш самотна*
*Наплакацца ў горкай журбе.*
*Яшчэ ты адчуеш, як моцна*
*Яго не хапацьме табе.*

(1965 г.)

## РАЎНЯЮЦЬ ХЛОПЦЫ РЭЧКУ

*Раўняюць хлопцы рэчку,*
*Майго маленства рэчку.*
*Уласна, рэчкі ўжо няма,*
*Мінулае сканала:*
*Нібы напятая струна,*
*Прасьцерлася канава.*
*Віроў, што кружаць лісьце,*
*Дзе нас малых калісьці*
*Русалкамі палохалі, —*
*Ня стала тых віроў,*
*Дзе шчупакі пялёхалі, —*
*Будзь здароў!*
*І тых парэчак чорных,*
*Што над вадой кусьціліся,*
*І птушак нязьлічоных,*
*Што ў гушчары гнязьдзіліся,—*
*Няма, няма нічога.*
*Раўнюсенькія берагі.*
*Раўнюсенькае дно.*
*Як быццам кут зусім другі —*
*Ня той, што знаў даўно.*
*Хоць і шчыміць за рэбрамі, —*
*Я разумею ўсё-ж,*
*Што ўзяць было патрэбна*
*Апэрацыйны нож,*
*Каб выпусьціць сьмярдзючую,*
*Гнілую зь цела кроў,*
*Каб сховішча гадзючае,*
*Раздольле камароў,*
*Што век гібела пусткаю,*
*Зьдзівіла сьвет капустаю,*
*Буракамі, рэдзькай . . .*
*Ня плачу я над рэчкай!*
*Ліць сьлёзы недарэчна*
*Па багне векавечнай,*
*Па д'яблаў салатопцы . . .*
*Выраўнівайце, хлопцы!*
*Такі ўжо век шыбуе —*
*Тэхнічны, сьмелы, дужы.*
*І гэта не бяда.*
*Бяда, як хто спрабуе*
*Раўняць жывыя душы.*
*Вось душ — шкада!*
*Хай будуць душы розныя,*
*Як нашы рэчкі родныя:*
*І з хвалямі бруістымі,*
*І з плёсамі празрыстымі,*
*Зь нябачнымі крыніцамі,*
*Зь вірамі-таямніцамі,*
*З вадзяніком, з русалкамі . . .*
*Стандартам іх ня руш!*
*Хай будуць душы ўсякія —*
*Апроч нялюдзкіх душ!*

(1967 г.)

**Ніл Гілевіч**

(Заканчэньне з 6-ай бач.)

*Зямля гудзе, як цёплы вулей,*
*Зьнікаюць крыўды, боль і зло . . .*
*Бацькі з магіл цяплом дыхнулі,*
*Каб дзецям жыць лягчэй было.*

(1966 г.)

### У ВЕКАВЕЧНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ . . .

*У векавечнай бацькаўшчыне клёны*
*Нячутна пачынаюць аблятаць*
*На рыжую траву, на мох зялёны,*
*На весьніцы, на ціхі стаў, на гаць.*
*Зямля глядзіць азёрамі-вачыма*
*На ясны сьвет, што стыне у красе.*
*Як чыста, бы сьвятло абшары вымыла,*
*Як ціха — быццам зьніклі людзе ўсе.*
*Адвечная мая! Ў сьцюдзёных росах,*
*Як летась, як мільёны год таму . . .*
*Ляцяць па ветры косы рыжай восені,*
*І кліча лісьцяў жоўты сум зіму.*
*На вуснах стыне горкі смак рабіны.*
*Цалую іх, халодныя, як лёд.*
*О вы, што будзеце ісьці зь дзяўчынай*
*Пад тымі-ж клёнамі праз сотню год,*
*Ці зразумееце, што мы кахалі,*
*Што зьніклі так, як зьгінеце і вы,*
*Што векавечны толькі край, і далеч,*
*І жоўты ліст на зелені травы,*
*Што ў векавечнай бацькаўшчыне клёны*
*Тысячагодзьдзі будуць аблятаць*
*На рыжую траву, на мох зялёны,*
*На весьніцы, на ціхі стаў, на гаць,*
*Што нездарма яна з асінак рудых,*
*Калі ідзеш увосень па зямлі,*
*Раняе золата пад ногі людзям,*
*Каб мы яе любілі й берaглі.*

**Уладзімер Караткевіч**

## ЛАРЫСА ГЭНІЮШ



Нарадзілася ў 1910 г. на Горадзеншчыне. Скончыўшы ў 1928 г. Ваўкавыскую гімназію, вярнулася на вёску да бацькоў, а ў 1935 г. выйшла замуж. Ейны муж скончыў Праскі ўнівэрсытэт і, не спадзяючыся дастаць работу ў роднай Зэльве, застаўся працаваць у Чэхаславаччыне. У 1937 г. туды пераехала й Ларыса Гэніюш із сынам і жыла ў Празе Чэскай да канца вайны. Але ў 1945 г., пасьля заняцьця Чэхаславаччыны савецкай арміяй, бальшавікі яе арыштавалі, як беларускую „буржуазную нацыяналістку", і выслалі ў канцэнтрацыйны лягер у Сібіры. Паводля вестак, атрыманых ад ейных сяброў зьняволеньня, што апынуліся пазьней на Захадзе, Ларыса Гэніюш мужна перамагала ўсе лягерныя пакуты й трымала сябе з поўнай нацыянальнай і людзкай годнасьцяй.

У канцы 50-ых гадоў была выпушчаная зь лягеру й вярнулася ў родную Беларусь. Жыве ўвесь час у Зэльве й займаецца літаратурнай дзейнасьцяй.

Першы зборнік ейных вершаў „Ад родных ніў" быў выдадзены ў 1942 г. у Празе. Сёлета выйшаў у Менску наступны ейны зборнік „Невадам зь Нёману", што складаецца ў васноўным зь вершаў, напісаных апошнімі гадамі.

У ейных вершах, пераважаюць сялянскія матывы й моцна гучаць патрыятычныя пачуцьці шчырай любасьці да роднага краю.

### ЗУБРЫ

*Самавітыя, барадатыя,*
*Зь нетраў пушчы ідуць зубры,*
*На плячах вехі грываў кудлатыя*
*І цяжкія нясуць гарбы.*

*То палягуць, то зноў паднімуцца,*
*Растрывожыўшы трэскам глуш.*
*Ногі моцныя аж пружыняцца*
*Пад цяжарам магутных туш.*

*Бяз хлусьні, бязь лісінага нораву,*
*Ў цеснай дружбе — свая сям'я.*
*А трывалыя, непакорныя —*
*Да такіх належыць зямля!*

*Ўсе прыходзілі, ўсе іх нішчылі,*
*Ад чужынца дабра не пачуць,*
*А яны грамадой недалічанай*
*Страпянуцца — і зноў жывуць.*

*Адна пушча-зямля нам маткаю,*
*Мора жытняе без граніц.*
*Мы адною жывём калядкаю,*
*З адных сілу бяром крыніц.*

*Усё гляджу на сям'ю зубрыную —*
*З вадапою ў гушчар брыдуць,*
*І мне ўсьцешна такой хвілінаю,*
*Што ня толькі яны жывуць.*

*Калі пушча цьвіце пралескамі,*
*Блішча сонца вясною ўгары —*
*Беларускія, белавескія*
*З новай сілай равуць зубры.*

(1966 г.)

***

*Твой век праедзе на машынах,*
*Мой — пехатой прайшоў*
*Ля васількоў да болю сініх,*
*Ля сьпелых каласоў.*

*Зязюлька мне гады лічыла,*
*За рукі вецер вёў,*
*І нехта з сумнымі вачыма*
*Зы мною побач йшоў.*

*Красы мяне вучыла поле,*
*А белы сьвет — кахаць,*
*Людзкое радасьці і болю*
*Ў жыцьці не абмінаць,*

*Гнязду радзімаму і мове*
*Заесёды вернай быць,*
*І хлеб надзённы напалову*
*Ў бядзе зь людзьмі дзяліць.*

(1967г.)

### МАЯ МОВА

*Ў добры час, на ўлоньні вясковым,*
*Дзе вадзіца крынічная б'е,*
*Навучыўся я матчынай мовы*
*І задуманых песьняў яе.*

*Многа ёсьць недасягнутых скарбаў,*
*Яшчэ болей — прываблівых мар.*
*Я яе ні за што не аддаў-бы,*
*Бо яна найвялікшы мой скарб!*

*Яна гойдае сьпевам калыску,*
*Літасьціва шчабеча ў бядзе,*
*На ёй песьні складае вятрыска*
*Ў неспакойны, разбуджаны дзень.*

*Мая мова ня знае зьмярканьняў*
*Ад маленства да старасьці лет,*
*Буду песьціць яе, што каханьне,*
*Разглядаць, як чароўны букет.*

*Можа, мовы чужой навучуся,*
*Каб суседзяў гасьцінна вітаць,*
*Але толькі на ёй, беларускай,*
*Буду людзям аб долі пяяць.*

*Мая мова, як шчасьце на вуснах,*
*Хваляваньня гарачы прыбой,*
*Можа быць, на чужой засьмяюся,*
*Ўсё-ж заплачу з тугі на сваёй.*

(1967 г.)

Падарожніку! Бяры кірунак на Кліўленд, месца — Полацак, і мэту сваю знойдзеш . . .

Малой Беларусі
зь любасьцяй
**К. Л.**

Ёсьць новае месца,
Узгоркі,
Лясок,
Вазёры,
Пляцы, з падмуроўкамі на новыя дамы.

Ня шмат яшчэ, але людзі ёсьць, ды ўсё прыбываюць . . .

Назоў яму далі:

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІ ГРАМАДЗКІ ЦЭНТАР**

## ПОЛАЦАК

І ляжыць ён на ўскраіне Кліўленду, у вабоімках шпаркага росту субурбіі-прадмесьця. Стронгсвіл.

Пляны, набрaнялыя пераканальнымі выказваньнямі за — ды супраць собскіх могілак, больш ці менш канечна патрэбных будынкаў, бязьлістаснага хлёстаюць па ўсіх, хто толькі выкажа сваю думку, рэхам пераходзячы праз вусны менш паважаных людзей. Дзьве рэчы патрэбныя тут — быць першым пакаленьнем, ды час — каб у поўнасьці ўвайсьці ў гэтае захапленьне, гэты транс змаганьня чалавека за высакародную мэту. І ў гэтым трансе — гэтым захапленьні ці мала людзей цяпер.

Хто ведае, за нейкі час месца гэта можа стацца ведамым, як Малая Беларусь.

**К. Л.**

— А я ня глухім гавару, — адказаў хлопец.

— То і відаць, што скнара. За такую песьню паўрубля яму шкада.

— За такую песьню мне мільёну не шкада. Ды толькі не з тваіх рук.

— А што мае рукі?

— А тое, што іншая дабрыня горшая за дурасьць. А дабрыня багатага . . . .

— Затое ты, відаць, з багатых. Сем коп лапцей . . .

Алесь сказаў гэта зь вялікай крыўды. Але падлетак, апрануты сапраўды сьціпла, здавалася, не пакрыўдзіўся.

— Люблю Сярка за звычай, — паказаў ён сьляпуча белыя зубы. — Ды толькі ня тое паны, што грошы маюць, а тое, што Бога знаюць. Забяры свае бязбожныя грошы. Чалавека падвядзеш.

— Чым гэта яны горшыя? — спытаў Алесь. — Чаго ты да мяне прычапіўся?

— А тым, што яны дурной галавой дадзены, гэтыя грошы.

Алесь мераў хлопца вачыма. Так, той быў, відаць, дужэйшы, але ў яго было менш гнуткасьці й спрыту.

— А я вось дам, дык ты й нагамі накрыешся, — сказаў хлопец.

— А ну дай. Сам пяты задзярэш.

Праз хвіліну яны малацілі адзін аднаго з усёй заўзятасьцю падлеткаў.

Пыл так і курэў над месцам бойкі. Урэшце яны стаміліся. Стаялі сапучы й насьцярожана сочачы за праціўнікам.

— Атрымаў? — спытаў хлопец.

— Дый ты атрымаў.

У хлопца распухла і без таго пухлая ніжнаяя губа; у Алеся пякло вуха.

— Ну, й што? — спытаў хлопец.

— А тое, што дурань, — ужо ня так злосна сказаў Алесь.

Яны ўсё яшчэ сачылі адзін за адным, але відаць было, што бойка згасьне.

— Гэта ты дурань, — сказаў хлопец. — Старога за твой паўрубель маглі-б і ў паліцыю павесьці. У бедных людзей бываюць толькі медныя грошы.

— А паперак няма? — буркнуў Алесь.

— Не ў старцоў, ёлуп хвашчоўскі.

Алесь разумеў, што хлопец у сімтым мае рацыю, але вуха пякло, а незнаёмы яшчэ й лаяўся. Варожасьць зноў пачала нарастаць.

— Ты хто такі? — ня вельмі ветліва спытаў ён.

— А табе што?

— Ну хто? Паляк? Мазур?

І тут ён пачуў такое, што аж зьдзівіўся.

—Я Беларус, — спакойна сказаў хлопец.

— Што-о???

Алесь проста ня мог зразумець, адкуль гэтаму цёмна-русаму моцнаму хлопцу стала вядома яго таямніца, ягонае адкрыцьце.

Ён ня стрымаўся:

— Адкуль гэта ты даведаўся? Гэта-ж я адкрыў. Гэта я — Беларус.

— Адзін Гаўрыла ў Полацку, — усьміхнуўся хлопец. — Тут усе Беларусы.

— Але-ж я ведаю толькі трох, якія адказалі мне так. У астатніх няма імя . . .

Алеся цяпер неадольна цягнула да гэтага хлопца. Проста таму, што ён сам, ніколі ня ведаючы Алесевых думак, прыйшоў да таго самага, да чаго прыйшоў ён, Алесь.

А хлопец раптам сказаў:

— Я шкадую, што цябе стукнуў.

— І я таксама шкадую. — Алесь падаў хлопцу руку.

Хлопец зрабіў крок, і далоні падлеткаў зьліліся ў моцным поціску.

— Ты адкуль такі? — спытаў хлопец.

— Я з Дняпра. А ты?

— Я тутэйшы. Бацька прывёз тавар, а я зь ім.

— Твой бацька купец?

— Не, дваранін. Але ў яго ёсьць маленькая хвабрычка. Абрусы, сурвэткі, усё такое, словам.

— Значыць, вы небагатыя?

— Небагатыя. У нас вялікая сям'я. Адных дзяцей лічыш-лічыш ды саб'ешся.

— Ты вучышся дзе?

— Тут і вучуся, — сказаў хлопец, — у прагімназіі.

Дакрануўся да распухлай губы.

— Б'ешся ты здорава, — засьмяяўся ён. — Як прыклаў руку, дык, не раўнуючы, што станавы прыстаў. Давай знаёміцца, ці што?

— Давай. Я Алесь Загорскі.

— Кастусь Каліноўскі, — сказаў хлопец.

Яны стаялі й разглядалі адзін аднаго.

—Давай уцячом, ці што, — сказаў хлопец. — Пакуль крамы бацькаў тавар бяруць, дык мы паходзім, паслухаем.

— Давай . . . Толькі паўрубель гэты дзеду ўсё-ж аддамо. Разьмяняем на медзь і аддамо. Хай помніць, як мы біліся тут ды мірыліся.

— Канечне, — сказаў Кастусь.

Памянялі грошы, усыпалі старому ў шапку цэлую жменю медзі і пайшлі ў людзкі натоўп.

— Дык чаго гэта ты, братка, так на мяне насыпаўся? — спытаў Алесь.

— Ды стаіць, гляджу, такі павіч, толькі што хваста веерам не распускае. Стаіць і цераз грыб плюе: срэбра яму не шкада беднаму чалавеку.

— Ну, і што?

— Каб ты ведаў, як страшна б'юць гэтых людзей, ты-б так лёгка не глядзеў на гэта. Тым больш лірнікаў. Гэтых кожная сытая храпа лічыць за нязлоўленых злодзеяў і злачынцаў. На іх крычаць страшна. І б'юць.

— А за што?

—Падазроныя людзі. Прыедзе зь Піцера мардастая поскудзь. Такі ўжо магнат, такі нобіль — хвігаю носу не дастанеш: „Дзікуны брудныя, тубыльцы". Па кірмашы ідзе — як чума: ты скажы, ідзе — бязьлюдзее кірмаш. А старцы — яны-ж сьляпыя. Падыходзе, слухае, слухае. „Гэт-то што-ж ты, па-дла, сьпяваеш?! Які гэта турэцкі цар?! Намьок!!! На якой гэт-то саб-бачай гаворцы, пр-ра Ваську Вашчылу?! Пр-ра якога гэта сьвінскага Міхася Крычаўскага?!" Ну, стары апраўдваецца: „Ён, паночак, цішайшаму цару спрыяў, Аляксею..." — „Што?! Паганец, быдла, чарвяк мог цару спрыяць?!" Ды старому — у вуха. А на ліру — нагою. Толькі заенчыць.

— Ліру нашто?

— Кніг пазбавілі — хочуць і ліры пазбавіць. Ведаюць: пакуль слухаюць людзі хаця аднаго лірніка — не памерла жывая душа, не памерла воля.

Ішлі ў чалавечым моры. Вакол стаялі сьмех, бажба, нязлосныя праклёны.

— Ведаеш, — сказаў Алесь, — я проста вельмі быў зьдзіўлены. Стаіць сабе чалавек — і раптам гаворыць аб самым тваім, аб тым, пра што я сам думаў. Дзівосы!

— Дзіва што. Але-ж і яны, — рука хлопцава зрабіла круг у паветры, — таксама такія-ж, як ты, толькі не знайшлі як сябе называць.

І паўтарыў, відаць чужыя, словы:

— Безгалосае мора.

— Як гэта яны такія? — спытаў Алесь. — Мы, канечне, усе ад Адама. Адзін народ. Але-ж мы дваране.

— Ну і што? Было-ж у нас калісь так, што мужык, калі ён ахвотай ішоў на вайну, рабіўся дваранінам. Так, відаць, і ўсе. Твае продкі раней — і таму яны арыстакраты. Мае — пазьней, і таму я проста зь небагатых дваран. А ёсьць яшчэ шляхта, што сама зямлю арэ. Тыя зусім учарашнія мужыкі. Ганарыцца гэтым ня трэба, ды толькі трэба не пра ўсё і забываць.

— Дваране нашыя цару таксама небясьпечныя.

— Ёсьць і такія . . .

. . . Гамонячы, яны ішлі бясконцым кірмашом, а вакол іх заліваліся гліняныя сьвісьцёлкі, шалёна круціліся напалову пустыя карузэлі, заклікаў у свой балаган дзед з барадою.

— Багаты які кірмаш, — сказаў Алесь.

— Багаты, — адказаў Кастусь. — Толькі стратны. Бацька казаў, што на леташнім кірмашы ледзь прадалі пятую частку ўсяго завезенага. А сёлета яшчэ горш будзе.

— Чаму так?

— Няма ні грошай, ні хлеба. Зямля зьбяднела. Рабуюць нас усе. Лясы высеклі. У рэках вывелася рыба, у пушчах — зьвер. Раней то, кажуць, усяго было: і зьвера, і птушкі, і дзікага мёду. Ідзі сабе, чалавек, у лес, расчышчай лядьі. Сам сабе гаспадар. А цяпер адзін паратунак — горад. Ды і там . . . Ну, каму тут патрэбны сьвечкі? Мыла? Вось гэты чай? Або цукяр? Чаю мужык ня п'е, мыецца ён венікам, вечарам сядзіць пры лучыне. . . .

Алесь прабыў у Сьвіслачы яшчэ тры дні. І ўсе гэтыя дні хлопцы ня гублялі адзін аднаго з вачэй. Хадзілі па кірмашы, забіраліся ў сутарэньні разбуранага касьцёлу. Кастусь звадзіў нават свайго новага знаёмага на пасядушкі зь песьнямі і на гулянку, прысьвечаную кірмашнай сярэдзіне, пасьля якой кірмаш ідзе на спад. А Алесь звадзіў яго ў балаганы, бо з грашыма ў новага знаёмага было, відаць, ня густа.

І, няпрыкметна для саміх сябе, яны пасябравалі за гэтыя дні. Пасябравалі той хуткай дружбай падлеткаў, што ўзьнікае нечакана, а застаецца надоўга. Часам на ўсё жыцьцё . . .

**Уладзімер Караткевіч**

